## Полацкі раён

# Загучала вечная музыка

■ Станіслаў Раманчук

**Шмат розных культурных мерапрыемстваў праводзіцца на Віцебшчыне, але сярод іх асабліва выдзяляецца адно, хоць і праводзіцца ў самы змрочны перыяд года.**

На пачатку лістапада ў старажытным Полацку адкрыўся традыцыйны XVI міжнародны фестываль арганнай музыкі "Званы Сафіі", які прадоўжыцца пяць тыдняў і завершыцца толькі ў нядзелю 11 снежня. Цікава, што ўвесь гэты час нязменным ініцыятарам і арганізатарам свята вечнай музыкі з'яўляецца выдатны музыкант, арганістка канцэртнага зала Сафійскага сабора Ксенія Пагарэлая. Яе аўтарытэт у свеце музыкі настолькі высокі, што да нас згаджаюцца прыязджаць выступаць без вялізных ганарараў выканаўцы сусветнага ўзроўню. Вось і на гэты раз фестываль упрыгожаць выступленні лепшых арганістаў Галандыі Альберта Візгерхофа і Іагана Трумера, якія пагадзіліся выступіць перад аматарамі класічнай музыкі і ў абласным цэнтры. Свае майстэрства сёлета беларускім гледачам музыканты з прызнаных арганных краін Германіі, Францыі, Аўстрыі, Расіі і лепшыя беларускія майстры прадэманструюць усяго за 20 тысяч рублёў за ўваходны білет. На канцэртах запланаваны лепшыя творы Альбіоні, Баха, Бруха, Вагнера, Вівальдзі, Гайндна, Моцарта і іншых кампазітараў, чыя музыка стагоддзямі хвалюе сэрцы і душы людзей. Для ўладальнікаў абанентаў канцэрты фестывалю абыдуцца танней.




## Пастаўскі раён

# Чаму ж нам не піць?

■ Кастусь Александровіч

**Пры дарагавізне асноўных айчынных тавараў і прадуктаў харчавання да апошняга часу віно і гарэлка былі самымі таннымі на кантыненце.**

У выніку толькі на працягу аднаго тыдня ў медвыцвярэзніку ў Паставах (адным з чатырох гарадоў вобласці з падобнымі дзяржустановамі) быў устаноўлены восеньскі рэкорд. Сюды даставілі адпачыць 41 жыхара, яны былі ў нецвярозым стане і слаба кантралявалі свае паводзіны. Услед за дарослымі пацягнула на падобныя "подзвігі" і моладзь. На працягу адных выхадных падчас асенніх канікул у райбальніцу трапіла 20 добра перабраўшых норму юнакоў ва ўзросце ад 15 да 18 гадоў. Некаторым з іх прыйшлося аказваць меддапамогу ў рэанімацыі. Добра яшчэ, што перад гэтым тут жа, у бальніцы, правёў сеанс кадзіравання ад алкаголю для 80 мясцовых выпівох вядомы беларускі доктар Сайкоў. На Пастаўшчыне ўсемагчымымі спосабамі спрабуюць неяк супрацьстаяць страшнаму злу, праводзяць розныя прафілактычныя мерапрыемствы супраць алкагалізацыі насельніцтва. Аднак перамагчы страшнага "зялёнага змія" не атрымоўваецца. У раёне ўжо ўвялі забарону на продаж алкагольных напояў у сельскай мясцовасці на некалькі дзён у дні выдачы там зарплаты. На чарзе, магчыма, увядзенне поўнасцю забароны на продаж пладова-ягадных він нізкага гатунку. А які іншы паратунак ад бяды, калі ўжо сёлета 25 вадзіцеляў прыцягнуты да крымінальнай адказнасці, бо паўторна кіравалі транспартам нападпітку на працягу года.

## Докшыцкі раён

# Крах аперацыі "Л"

■ Чэслаў Якубовіч

**Тое, што за перамяшчэннем грузаў па беларускай тэрыторыі існуе даволі пільны кантроль, быццам усе ведаюць, аднак не перастаюць займацца рознымі рызыкоўнымі камбінацыямі.**

Вось і на дарозе ў гарпасёлку Бягомль Докшыцкага раёна днямі міліцыяй быў затрыманы грузавік з беларускімі нумарамі. Па дакументах выходзіла, што быццам усё ў парадку і 21 тона будаўнічых сумесяў вывозілася з Літвы ў накірунку абласнога цэнтра законным шляхам. Але інтуіцыя падказала аператыўнікам, што ў гэтай справе нешта не так, і да праверкі падключыліся супрацоўнікі мытні. Справай тэхнікі было высветліць, што гэты аўтамабіль "Сканія" ніколі не перасякаў літоўска-беларускую мяжу. Праверка высветліла, што перавозімы груз не афармляўся і на мытні ў Ашмянах. Быццам сапраўдныя пячаткі мытні з нумарамі выкарыстоўваліся раней, а цяпер выведзены з ужытку. Далейшы пільны агляд грузавога адсека фуры паказаў, што замест будаўнічых сумесяў там быў схаваны лом каляровых металаў - медзі і алюмінію. У суседняй Расіі за гэты лом арганізатар кантрабанднага перавозу атрымаў бы ганарар у суме амаль 150 тысяч долараў. У даход дзяржавы быў канфіскаваны гэты груз, кампетэнтныя органы заняліся далейшай праверкай па гэтай справе.

# Лічба нумара

**15%** - на столькі ў канцы лістапада павялічыць кошт сваіх паслуг замежнае прадпрыемства па аказанні паслуг сотавай сувязі "Вэлком". Па прынятым рашэнні тарыфы на выклікі і дадатковыя паслугі ў гэтага аператара акругліся да 1 рубля згодна правілам арыфметычнага акруглення, тарыфы на разавыя ўзносы і спецыяльныя паслугі – да 50 рублёў. Быццам дробязь, але для людзей усё роўна непрыемна, хоць сёлета насельніцтва быццам і прызвычаілася да рэкорднай інфляцыі і сумнай дэвальвацыі нацыянальнай валюты.

Аднак гэта будзе не апошняе і не самае маштабнае павелічэнне цэн у заключным месяцы восені 2011 года. Самым адчувальным стаў рост тарыфаў адразу на 37 % на праезд у грамадскім транспарце беларускай сталіцы. У рэгіёнах талончыкі з-за меншага ўзроўню даходаў жыхароў крыху іншыя, адна паездка там стала каштаваць 1100 рублёў. Аднак такія "сюрпрызы" зноў падштурхоўваюць рост цэн у Беларусі да трохзначнага ўзроўню.У прыватнасці, напрыканцы кастрычніка інфляцыя дасягнула амаль 7,5 % і 25 кастрычніка стала вышэйшай за 80 % - "рэкордны" паказчык у свеце, калі не лічыць правалаў бяднейшых афрыканскіх дзяржаў.

А вось па самай адчувальнай пазіцыі для беларусаў – харчаванні, на якое цяпер траціцца львіная доля заробкаў працоўных, за 3 кварталы года прадукты падаражэлі на 87 %. Такім чынам, няма сумнення , што да новага года рост цэн перавысіць у нас 100 %. Такое мы перажывалі раней, яшчэ напрыканцы мінулага стагоддзя. Спецыялісты папярэджваюць насельніцтва, што на працягу двух заключных месяцаў года нам трэба будзе прывыкнуць да змен на цэнніках яшчэ на 20 % у лістападзе і на столькі ж у пачатку зімы.

Надзеі на спыненнне не спраўдзяцца, таму што цэны і не думаюць у нас зніжацца. Наадварот, ёсць усе перадумовы для іх далейшага, як гэта ні сумна, росту. Беларусы гэта адчулі, калі зноў у каторы ўжо раз падаражэў цукар, а ўслед за ім крупы, яйкі, масла, бензін на 5-8 % і болей. Рост цэн ніжэй за 10 % ужо нікога не здзіўляе, а вось медыцынскія паслугі непрыкметна падаражэлі ў кастрычніку на 15 %. З жахам многія суайчыннікі чакаюць, калі айчынныя ВНУ у снежні, калі не раней, павысяць кошт навучання на платных аддзяленнях адразу на 25 %, бо заробкі выкладчыкам трэба неяк павышаць.

Чакалася, што з 1 лістапада для насельніцтва на 7 % падаражэе электраэнергія, аднак ва ўрадзе аператыўнага рашэння не прынялі, як і не ўвялі пакуль услед за вадой нормы спажывання электрычнасці. Праўда, па звадкаванаму газу павышэнне тарыфаў на АЗС і ў балонах для людзей на 10 % адбылося. А вось аб непазбежным росце праезду ў грамадскім транспарце гаварылася датэрмінова, добра, што хоць праязныя білеты прадалі на лістапад па старых коштах. На экспрэсных маршрутах у Мінску адна паездка стала каштаваць ужо 1800 рублёў, а маршрутныя таксі адпусцілі на вольныя цэны. Перад падаражэннем талончыкаў у беларускай сталіцы была іх масавая скупка, народ атакаваў таксама запраўкі, дзе ўзніклі чэргі і не заўсёды паліва можна было купіць свабодна.

Далейшы рост гадавой інфляцыі справакаваў указ № 489 аб значным павышэнні акцызаў на моцныя алкагольныя напоі, тытунёвыя вырабы (з пачатку года яны падаражэлі для беларусаў больш чым у 2 разы). На столькі ж выраслі акцызы на таннае віно. Але больш за ўсё вырас акцыз на салярку – у 2,9 разы – да амаль 677 тыс. рублёў/тона. Пэўныя панічныя настроі сярод насельніцтва ўжо назіраюцца, як і апатыя і адчай. Але яшчэ нядрэнна пачуваюць сябе буйныя заводы сталіцы, і там спакойна.

З іншага боку, куды дзявацца? Законы эканомікі жорсткія: калі адбылася дэвальвацыя амаль у 2 разы, то і цэны павінны вырасці дзесьці ў 1,5 разы. Цікава, што пакуль нават ва ўрадзе не ведаюць, як будзе развівацца сітуацыя ў 2012 годзе, і ёсць аж 5 варыянтаў развіцця эканомікі. Гавораць нават, што рост ВУП можа быць нулявым , альбо + 0,5 %, і гэта ў год чарговых парламенцкіх выбараў?

## Надвор'е ў Глыбокім www.rp5ru

| | чацвер 10.11.11 | | | | пятн. 11.11.11 | | | | сб. 12.11.11 | | | | нядз. 13.11.11 | | | | пн.14.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | 0 | +1 | +3 | +1 | -3 | -2 | +2 | 0 | 0 | +2 | +3 | +2 | +1 | +1 | +2 | +1 | 0 | +1 | +4 |
| Ціск, мм | 757 | 757 | 758 | 760 | 761 | 762 | 761 | 762 | 762 | 762 | 762 | 764 | 765 | 764 | 762 | 761 | 758 | 755 | 751 |
| Вільготнасць, % | 86 | 88 | 77 | 88 | 94 | 92 | 77 | 89 | 92 | 93 | 88 | 91 | 94 | 95 | 86 | 90 | 89 | 89 | 87 |
| Вецер м/сек | С 5 | С-В 4 | С-В 4 | С-В 5 | С-В 3 | С 2 | С 2 | С 3 | С 3 | С 3 | С 3 | С-В 4 | С-В 2 | З 2 | З 3 | С-З 2 | З 4 | З 5 | З 6 |
| | | 08:32 | 17:15 | | | 08:34 | 17:13 | | | 08:36 | 17:11 | | | 08:38 | 17:10 | | 08:40 | 17:08 | |
| | | 16:42 | 08:11 | | | 17:12 | 09:19 | | | 17:50 | 10:21 | | | 18:39 | 11:16 | | 19:39 | 12:02 | |

## Дзень за днём

**У Беларусі вырашана адмовіцца ад банкнот наміналам 10 і 20 рублёў, усе розпічныя цэны акругляць ад 50 да 100 рублёў. З-за росту рублёвай масы восенню шэраг экспертаў прагназуюць магчымы абвал беларускага рубля да канца года ніжэй за 10 тысяч за 1 USD. У краіне зноў з 1 лістапада павялічылі акцызы на алкаголь, цыгарэты і дызельнае паліва, на пладовыя віны – нават у 2 разы, раней такія новыя стаўкі ўвялі ў пачатку верасня. На асенніх канікулах працягласцю 10 дзён адпачылі 920 беларускіх школьнікаў, а пенсіянерам у лістападзе ў трэці раз сёлета павысілі пенсіі ў сярэднім на 22 %, і яны складаюць цяпер 114 $ у месяц.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Спікер ніжняй палата Кангрэса Джон Бейнэр заклікаў пераглядзець адносіны з Расіяй, паколькі Масква вярнулася да савецкага стылю паводзін на сусветнай арэне.

**Германія.** Буйны банк Deutsche bank афіцыйна адмовіўся ад далейшага ўсялякага супрацоўніцтва з Беларуссю з-за наяўнасці палітычных зняволеных, як і BNP Paribas.

**Грэцыя.** Экстраны саміт дзяржаў ЕС у Брусэлі пагадзіўся спісаць з краіны 50 % яе доўгу ў суме амаль 100 млрд. еўра, Еўрапейскі фонд фінансавай стабільнасці складзе 1 трлн. еўра.

**Японія.** Краіна апынулася на грані дэфолту, бо да будучай вясны яе знешні доўг перавысіць 13 трлн. USD, альбо 200 % ВУП, што блізка да крытычнага ўзроўню.

**Лівія.** Пасля забойства "бацькі-кіраўніка Лівійскай Джамахірыі" Муамара Кадафі на яго замежных рахунках знайшлі амаль 200 млрд. $, што ў 2 разы болей даваеннага ВУП за год

**Латвія.** Пасля парламенцкіх выбараў амаль поўнасцю абнавіўся склад новага кабінета міністраў, ва ўрад увайшлі партыя рэформ, блок "Адзінства" і аб'яднанне нацыяналістаў.

**Расія.** З атамнай падводнай лодкі "Юрый Далгарукі" ваенныя паспяхова запусцілі міжкантынентальную балістычную ракету "Булава" і падбілі цэль на палігоне Камчаткі.

**Туніс.** Пасля парламенцкіх выбараў многія жыхары краіны непакояцца, што 23-гадовая свецкая дыктатура Бен Алі зменіцца новай ісламскай радыкальнай дыктатурай.

**Літва.** Глава літоўскага МЗС Аўдронюс Ажубаліс заявіў, што ў Беларусі сітуацыя пагаршаецца і яна паступова адмаўляцца ад суверэнітэту ў абмен на расійскую падтрымку

**Таіланд.** У сувязі з моцнай паводкай улады аб'явілі 5 дзён выхаднымі для эвакуацыі жыхароў небяспечных раёнаў, сталіца краіны будзе месяц знаходзіцца пад вадой.

**Кыргыстан.** На прэзідэнцкіх выбарах яшчэ ў 1-м туры пераканаўчую перамогу атрымаў дзеючы прэм'ер-міністр Алмаз Атамбаеў, яго падтрымала больш за 60 % выбаршчыкаў.

**ЗША.** З-за моды адмовы ад курэння буйнейшы вытворца цыгарэт Marlboro кампанія Altric Group абвясціла аб звальненні зімой 2012 года 15 % сваіх работнікаў.

**Расія.** Для дзяржаўтаінспектараў расійскай паліцыі распрацавалі новыя прыборы алкатэстары, якія на адлегласці выяўляюць у салонах аўто наяўнасць пароў алкаголю.

**Японія.** Навейшы амерыканскі самалёт "Боінг 787 Dreamliner" (лайнер мары) ажыццявіў першы паспяховы камерцыйны рэйс са сталічнага аэрапорта "Нарыта" ў Ганконг.

**ЗША.** Новую мадэль iPhone 4S пасля смерці яе распрацоўшчыка Сціва Джобса за першыя 3 дні прадажу раскупілі ў колькасці 4 млн. штук, за суткі паступіў яшчэ 1 млн. заявак на яе.

# Банкі пачнуць ажыццяўляць продаж валюты насельніцтву па дакументах, якія сведчаць асобу



■ **Андрэй Кажамякін, БелаПАН**

**З 9 лістапада банкі пачнуць ажыццяўляць продаж валюты па дакументах, якія сведчаць асобу. Да іх адносяцца пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, від на жыхарства ў Рэспубліцы Беларусь, пасведчанне бежанца, пашпарт грамадзяніна замежнай дзяржавы. Пра гэта паведамляецца ў прэс-рэлізе Нацбанка.**

"Пры продажы замежнай валюты (як наяўнай, так і безнаяўнай), плацежных дакументаў у замежнай валюце за беларускія рублі фізічным асобам банкамі рэгіструюцца даныя дакумента, які сведчыць асобу. Да такіх рэквізітаў дакумента адносяцца: прозвішча, уласнае імя, імя па бацьку (пры наяўнасці); найменне дакумента, яго серыя і нумар; ідэнтыфікацыйны (асабісты) нумар фізічнай асобы (пры адсутнасці нумара — дата нараджэння)", — гаворыцца ў паведамленні.

Такі парадак продажу валюты вызначаны пастановай Нацбанка № 478, якая набывае моц 9 лістапада.

У паведамленні падкрэсліваецца, што пры продажы замежнай валюты за беларускія рублі, якія знаходзяцца на банкаўскім рахунку фізічнай асобы (бягучым, дэпазітным, карт-рахунку і інш.), рэгістрацыя даных дакумента, які сведчыць асобу ўладальніка рахунка, праводзіцца на падставе даных банка, у якім адкрыты гэты рахунак.

Калі фізічная асоба звернецца ў банк для пераафармлення ўкладу (дэпазіту) у беларускіх рублях на ўклад (дэпазіт) у замежнай валюце, даныя дакумента, які сведчыць асобу гэтага грамадзяніна, ужо ёсць у банку, таму рэквізіты аперацыі продажу замежнай валюты будуць брацца з гэтых даных. Разам з тым сама аперацыя пераафармлення дагавора банкаўскага ўкладу (дэпазіту) будзе праводзіцца ў адпаведнасці з парадкам вядзення касавых аперацый (на падставе прад'яўленага фізічнай асобай дакумента, які сведчыць асобу).

Інфармацыя пра рэквізіты аперацыі продажу замежнай валюты падаецца банкамі ў аўтаматызаваную інфармацыйную сістэму "Разлік" адзінай разліковай і інфармацыйнай прасторы Рэспублікі Беларусь не пазней за банкаўскі дзень, што ідзе за днём паказу аперацыі продажу замежнай валюты ў балансе банка.

"Праведзеныя выпрабаванні працаздольнасці праграмнага забеспячэння банкаў пры ўзаемадзеянні з гэтай інфармацыйнай сістэмай для рэгістрацыі здзелак продажу замежнай валюты насельніцтву за беларускія рублі паказалі гатоўнасць яе да ўводу ў эксплуатацыю", — паведамілі ў Нацбанку.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Брэст.** Здалі ў эксплуатацыю аб'язную дарогу працягласцю амаль 200 км вакол нацпарка "Белавежская пушча" з сучаснай інфаструктурай і параметрамі трасы 4-й катэгорыі.

**Мінск.** Турэцкі пасол у РБ Джэват Незіхі заявіў, што яго краіна не далучыцца да візавых і эканамічных санкцый ЕС у адносінах Беларусі, бо не верыць у іх прадукцыйнасць.

**Гомель.** Самым магутным і прадукцыйным у СНД стаў новы збожжаўборачны камбайн "Гомсельмаша" – "Палессе GS16" для высокаўраджайных палёў, яго паказалі ў Маскве.

**Мінск.** Міністэрства эканомікі РБ ўзгадніла павышэнне тарыфаў на праезд з лістапада ў сталіцы да 1300 рублёў за паездку, МАЗ стварыў школьны аўтобус малога класу.

**Жыткавічы.** У дарозе каля 5 гадзін вечара згарэў 3-і вагон дызель-цягніка на Калінкавічы, пажар патушылі за 1,5 гадзіны, людзі не пацярпелі, пашкоджаны абшыўка, лаўкі 2 вагона.

**Мінск.** З-за адсутнасці грошай прыпынілі будаўніцтва 2-й кальцавой аўтамабільнай дарогі вакол сталіцы, з запланаваных на 2011 год 80 млрд. рублёў асвоілі толькі 19 мільярдаў.

**Баранавічы.** Былая стратная абутковая фабрыка, набытая прыватнай фірмай, пачала пастаўляць абутак спецпрызначэння для расійскага спецназу і сілавых структур Расіі.

**Ліда.** Шклозавод "Нёман" завяршае будаўніцтва новага цэха, дзе ў пачатку 2012 года пачне ўпершыню ў РБ на італьянскім абсталяванні выпускаць шклавату.

**Салігорск.** Мясцовы бізнесмен страціў амаль 0,5 млн. $, грошы ў яго падманным шляхам забрала прыбіральшчыца адной з буйных арганізацый Мінска, махлярку затрымалі.

**Бяроза.** Паблізу цёплых каналаў Бярозаўскай ГРЭС рыбаводчая гаспадарка "Ясельда" пачала ствараць сумесна з Ізраілем прадпрыемства па вырошчванні каштоўных парод рыб.

**Ашмяны.** У мястэчку Гальшаны адкрылася экспазіцыя аб гісторыі мясцовага славутага замка. Па даследаваннях, у РБ было 120 замкаў, засталося 38 у запушчаным стане.

**Вілейка.** Міліцыя затрымала 27-гадовага раней судзімага жыхара раёна, які падазраецца ў згвалтаванні 9-гадовай дзяўчынкі ў прыбіральні аўтавакзала "Маскоўскі" ў Мінску.

**Мінск.** У наступным годзе Белтэлерадыёкампанія плануе запусціць цалкам беларускамоўны канал "Беларусь-3" культурніцкага зместу, "ЛАД" стаў "Беларуссю-2".

**Магілёў.** Каля вёскі Салтанаўка знайшлі пахаванне рускіх салдат, загінуўшых падчас вялікага бою з войскамі французскага маршала Даву ў часы Айчыннай вайны 1812 года.

**Маладзечна.** Пасля завяршэння "Дажынак-2011" дагэтуль не завяршылі капітальны рамонт каля 20 жылых дамоў і шэраг гарадскіх вуліц.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Новалукомль.** Старшыня Камітэта дзяржкантролю РБ Аляксандр Якабсон на сустрэчы з калектывам завода керамзітграўію прапанаваў адмовіцца ад даларызацыі эканомікі.

**Расоны.** Трэці год ніяк не завершыцца рэканструкцыя фермы на 400 галоў статку ў вёсцы Гарбачова, хоць работы былі разлічаны на 10 месяцаў.

**Віцебск.** Без тлумачэння прычын у Вярхоўным судзе па справе тэракту ў метро бацькі галоўнага фігуранта Канавалава і яго родны брат з Віцебска адмовіліся даваць паказанні.

**Наваполацк.** З дапамогай Міністэрства інфармацыі РБ у друкарні заменяць абсталяванне, хутка ўсе раённыя газеты рэгіёна тут стануць друкаваць у колеры нават на 16 палосах.

**Віцебск.** За кошт сёлетняга ажыятажу на пакупку аўтамабіляў, па дадзеных ДАІ, летам у вобласці прыбавілася 16 тысяч аўто, а за 7 апошніх гадоў – на 100 тысяч адзінак болей.

**Глыбокае.** Гаспадарчы суд вобласці спагнаў з ААТ "Глыбоцкая птушкафабрыка" урон прыродзе звыш 63 млн. рублёў, калі летам масава загінула рыба ў рацэ Дабрылаўка.

**Віцебск.** Ніхто з пабочных асоб больш не трапіць у гімназію № 8, тут усіх навучэнцаў і выкладчыкаў забяспечылі электроннымі ключамі-пропускамі праз сістэму турнікетаў.

**Лепель.** За кошт грошай пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы да канца года ў дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры адпачнуць больш за 300 дзяцей з РБ і РФ.

**Докшыцы.** Міліцыя на трасе ў гарпасёлку Бягомль затрымала аўтамабіль "Сканія", на якім 44-гадовы мінчанін незаконна перавозіў 25 тон лома каляровых металаў.

**Талачын.** Каля вёскі Перавалачная супрацоўнікі ДАІ спынілі грузавік "Мерседэс", на якім жыхар Брэста перавозіў жаночага адзення на 200 млн. рублёў, тавар канфіскавалі.

**Віцебск.** На гарадскім інтэрнэт-партале запусцілі праект "ВДБ-Віцебскае дзіцячае бачанне", першымі вядучымі-рэдактарамі яго сталі дзяўчынкі ва ўзросце 6 і 10 гадоў.

**Браслаў.** На пункце пропуску "Урбаны" польскі кіроўца фуры рызыкнуў і схаваў у тайніку 370 пачак кантрабандных цыгарэт, справу перадалі ў суд.

**Орша.** Мясцовая велагоншчыца Таццяна Шаракова ўдала выступіла на чэмпіянаце Еўропы па велагонках на трэку, заняла 2 месца ў шматбор'і і бронзу ў складзе зборнай РБ.

**Докшыцы.** Пашырыўся заапарк Бярэзінскага запаведніка, сюды прывезлі 2-х новых ласёў, у новы вальер пераехалі мядзведзіца і воўк.

**Віцебск.** На выездзе з горада на Мінск адкрыўся першы ў вобласці гіпермаркет плошчай звыш 4 тыс. кв. метраў з кафэ, рэстаранам, шэрагам банкаў, аптэчных кіёскаў, буцікаў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Парафіяльны фэст у Лучаі

■ Ганна Анішкевіч

**У суботу, 29 кастрычніка, у лучайскім касцёле (Пастаўскі дэканат Віцебскай дыяцэзіі) адбыўся парафіяльны фэст Святога Тадэвуша. На яго сабралася шмат вернікаў як з навакольных вёсак, так і з Пастаў, Шаркоўшчыны, Глыбокага, Мядзела, Жодзіна, Мінска.**

Пярліна Пастаўшчыны — так многія называюць гэтую святыню, якая прыцягвае людзей сваёй прыгажосцю, неардынарнасцю, багатымі духоўнымі традыцыямі.

Перад пачаткам урачыстасці была адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту ля абраза Святога Тадэвуша. Затым ксёндз пробашч Мікалай Ліпскі прывітаў гасцей: ксяндза Марка з Польшчы, які раней працаваў у лучайскім касцёле, ксяндза Чэслава Куцмежа з Варапаева (ён і цэлебраваў Святую Імшу). А казанне прысвяціў малітве. Асаблівую ўвагу засяродзіў на тым, як мы размаўляем з Богам, ці прыслухоўваемся да свайго голасу.

У канфесіяналах паслугу споведзі аказвалі святары з Дунілавіч і з Пастаў. Узнёсла спяваў хор з Глыбокага, прыгожай была працэсія вакол касцёла. А як цудоўна і з густам былі аздоблены цэнтральны алтар і абраз Святога Тадэвуша! Не з замежных экзатычных кветак, а са звычаных асенніх хрызантэмаў і марозкаў былі зроблены дзівосныя рознакаляровыя кампазіцыі! І працавалі над імі не сталічныя дызайнеры, а вясковыя жанчыны. Бачна, Дух Святы натхніў іх на такую творчасць.

Пасля Імшы быў канцэрт. А закончылася ўрачыстасць феерверкам.





# Падрыхтаваны праект указа Прэзідэнта аб ільготным крэдытаванні грамадзян на жыллёвае будаўніцтва

Падрыхтаваны праект указа Прэзідэнта аб ільготным крэдытаванні грамадзян на жыллёвае будаўніцтва, паведаміла на прэс-канферэнцыі 2 лістапада начальнік аддзела прававога забеспячэння ўпраўлення жыллёвай палітыкі Мінгарвыканкама Алена Лукашэвіч.

Яна адзначыла, што праект распрацаваны з улікам усіх фактараў, каб падтрымаць маламаёмных грамадзян і «вычленіць працаздольных грамадзян, якія змогуць будаваць жыллё з выкарыстаннем іншых форм фінансавання».

Падчас падрыхтоўкі дакумента былі вызначаны асноўныя крытэрыі, згодна з якімі грамадзяне будуць мець права на льготны крэдыт. Першы крытэрый — рэальная забяспечанасць жыллём. Мяркуецца ўлічваць жылыя памяшканні на тэрыторыі Беларусі, што знаходзяцца ва ўласнасці крэдытаатрымальніка і членаў яго сям'і. Як растлумачыла Лукашэвіч, на мінчан гэты крытэрый таксама распаўсюджваецца. Раней улічвалася толькі жыллё ў Мінску.

Другі крытэрый — узровень даходаў. На сённяшні дзень малазабяспечанымі лічацца грамадзяне пры ўзроўні даходу 2 млн. 659 тыс. рублёў у месяц на кожнага члена сям'і (тры мінімальныя спажывецкія бюджэты). У праекце прапанавана гэтую норму знізіць з 3 МПБ да 2 МПБ.

Лукашэвіч паведаміла, што ў дакуменце вычленены катэгорыі асоб, якія ніколі не мелі жылля, — грамадзяне, якія жывуць у інтэрнаце не менш за 10 гадоў, пры адсутнасці ў іх і членаў іх сям'і якоганебудзь жылля па месцы пастаноўкі на ўлік.

Акрамя таго, мяркуецца паменшыць нарматыў ільготнага крэдытавання з 20 да 15 кв. метраў на чалавека.

Будуць таксама перагледжаны працэнтныя стаўкі па льготным крэдыце.

Чыноўнік падкрэсліла, што будуць захаваны крытэрыі прадастаўлення льготнага крэдыту для шматдзетных сем'яў. Тэрміны крэдытавання і працэнты застаюцца тыя ж. Для мінчан прадугледжваецца працэнтная стаўка ў 20% стаўкі рэфінансавання, але не менш як 5% гадавых.

Пры гэтым Лукашэвіч падкрэсліла, што гэта праект указа і ён можа зведаць некаторыя змены.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# Візавы рэжым паміж Турцыяй і Беларуссю можа быць спрошчаны ў першай палове 2012 года

**Візавы рэжым паміж Турцыяй і Беларуссю можа быць спрошчаны ў першай палове 2012 года. Такое меркаванне выказаў журналістам 2 лістапада ў Мінску міністр культуры і турызму Турцыі Эртурул Гюнай, які ўдзельнічаў у пасяджэнні Беларуска-турэцкага савета дзелавога супрацоўніцтва.**

Паводле яго слоў, Турцыя, якая хацела б развіваць адносіны з Беларуссю ў розных сферах, напрыклад, у эканоміцы, гандлі, палітыцы і турызме, працуе «над шляхамі, якімі гэтага можна было б дасягнуць». Гюнай адзначыў, што развіццю адносін паміж дзвюма краінамі будзе садзейнічаць павелічэнне колькасці авіярэйсаў, у тым ліку чартарных, а таксама спрашчэнне візавага рэжыму паміж Турцыяй і Беларуссю.

«Я думаю, што спрашчэнне візавага рэжыму будзе мець месца ў першай палове наступнага года, — сказаў ён. — Наш візіт у Беларусь ставіць мэтай абмеркаваць, якім чынам гэтыя працэсы можна паскорыць».

Спрашчэнне візавага рэжыму, на думку чыноўніка, дазволіць забяспечыць «не толькі вялікі паток беларускіх грамадзян у Турэцкую Рэспубліку, але і турэцкіх грамадзян і інвестараў у Беларусь», што паўплывае «на развіццё двухбаковых адносін».

Міністр культуры і турызму лічыць, што колькасць авіярэйсаў паміж дзвюма краінамі павінна павялічыцца ў 3-4 разы. «Адлегласць паміж Мінскам і Стамбулам, Мінскам і Анкарой прыкладна 2,5 гадзіны палёту, Мінскам і Антальяй — тры гадзіны. Гэта зусім невялікая адлегласць, на абодвух баках якой знаходзяцца дзве цудоўныя краіны», — адзначыў Гюнай.

Міністр сказаў, што, згодна са звесткамі за мінулы і гэты год, штогод Турцыю наведваюць 150—200 тысяч беларускіх турыстаў. «Улічваючы насельніцтва Беларусі, гэта не такая ўжо маленькая лічба. Аднак калі параўнаць з агульнай колькасцю турыстаў, якія наведваюць Турцыю, то гэта не вельмі шмат», патлумачыў чыноўнік, дадаўшы, што сёлета ў сувязі з крызісам колькасць беларускіх турыстаў у Турцыі знізілася на 10%.

Пры гэтым, паводле яго слоў, агульны паток турыстаў, якія наведваюць Турцыю, вырас на 10% і склаў звыш 30 млн. чалавек.

*Захар Шчарбакоў, БелаПАН.*

# Ажыятажу вакол грэцкіх круп, як летась, не будзе

**Ураджай грэцкіх круп дазволіць пазбегнуць ажыятажнага попыту на гэты прадукт, заявіў намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Васіль Седзін 2 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

«Летась быў ажыятаж з грэчкай, але сёлета мы гэту праблему, я лічу, знялі», — сказаў ён. Намеснік міністра падкрэсліў, што валавы збор збожжа грэчкі сёлета ў некалькі разоў большы, чым у мінулым.

«Мы практычна поўнасцю забяспечым грэцкімі крупамі нашу краіну. Але сёння мы не можам выключыць імпарт, бо ёсць Мытны саюз, і зразумела, што завозіцца крупы з Расіі», — сказаў Седзін.

Ён таксама заявіў, што беларускія крупы канкурэнтаздольныя. «Мы рэалізуем грэчку ў межах 16 тыс. рублёў за кілаграм, у той час як кошт імпартнай — 20-25 тыс. Мы сваімі крупамі павінны стабілізаваць рынак і паменшыць кошт дзякуючы таму, што вырас добры ўраджай не толькі ў нас, але і ва Украіне, Расіі», — адзначыў намеснік міністра.



*Сяргей Каралевіч, БелаПАН.*

# Анкета для выбарачнага абследавання хатніх гаспадарак з мэтай вывучэння праблем занятасці складаецца з 62 пытанняў

Анкета для выбарачнага абследавання хатніх гаспадарак у мэтах вывучэння праблем занятасці насельніцтва складаецца з 62 пытанняў, паведаміла на прэс-канферэнцыі ў Мінску 3 лістапада намеснік старшыні Нацыянальнага статыстычнага камітэта Алена Кухарэвіч.

У лістападзе 2011 года камітэт упершыню праводзіць выбарачнае абследаванне хатніх гаспадарак у мэтах вывучэння праблем занятасці насельніцтва. З 7 па 13 лістапада пройдзе пробнае абследаванне, а з 14 па 30 лістапада — асноўнае.

У абследаванні прымуць удзел грамадзяне Беларусі ад 15 да 74 гадоў, прадстаўнікі розных сацыяльных груп, сярод якіх метадам выпадковай выбаркі будуць адабраны 7 тыс. хатніх гаспадарак. З 2012 года такое мерапрыемства плануецца праводзіць на пастаяннай аснове. Штогод яно будзе ахопліваць 28 тыс. хатніх гаспадарак.

Пытанні ў анкеце будуць датычыцца даных пра чалавека: узрост, пол, месца пражывання, месца працы, пасада, адукацыя, спецыяльнасць і інш. Кухарэвіч падкрэсліла, што інфармацыя, атрымаmая спецыялістамі, з'яўляецца канфідэнцыйнай і ніякі дакумент прад'яўляць не трэба.

Хатнія гаспадаркі будуць папярэджаны пісьмова пра дату і час прыходу інтэрв'юера. Усе інтэрв'юеры пройдуць спецыяльнае навучанне і заключаць дагавор з Белстатам. Ім выдадуць спецыяльныя пасведчанні асобы і зялёныя партфелі, якія выкарыстоўваліся падчас перапісу насельніцтва ў 2009 годзе. Адзін інтэрв'юер будзе апытваць членаў 40—50 хатніх гаспадарак. Яго ўзнагарода складзе 25 базавых велічынь (875 тыс. рублёў). Пры гэтым спецыяліст не змагла назваць суму расходаў на правядзенне такіх мерапрыемстваў.

*Марына Носава, БелаПАН*

**У каждого человека есть своя история, а в истории свои критические моменты; и о человеке можно безошибочно судить только смотря по тому, как он действовал и каким он является в эти моменты, когда на весах судьбы лежала его и жизнь, и честь, и счастье. И чем выше человек, тем история его грандиознее, критические моменты ужаснее, а выход из них торжественнее и поразительнее.**

*В.Г.Белинский.*

# Філасофія жыцця



■ **Фадзей Шымуковіч,** *педагог-пенсіянер, г. Дзісна.*

Калі б год 40 таму назад хтосьці сказаў, што в. Акунёва стане вымiраючай, яго паднялі б на смех. Цэнтр калгаса імя Заслонава, наяўнасць сярэдняй школы з кантынгентам больш за 200 вучняў, калгасная кантора, бібліятэка, клуб, магазін, будаўніцтва пад'язных шляхоў. З навакольных "неперспектыўных" вёсак і хутароў людзі перасяляліся ў Акунёва. Частка моладзі заставалася ў родных мясцінах. Пры клубе з ліку настаўнікаў, сельскай інтэлігенцыі і таленавітай моладзі была створана і паспяхова функцыянавала мастацкая самадзейнасць. Мы выступалі не толькі на сцэне мясцовага клуба, але нас запрашалі ў Сіцькова, Мікалаева і нават у "Зорку" Шаркоўшчынскага раёна. Жыццё працякала размерана, людзі працавалі і культурна адпачывалі, усё цякло ў прывычным рытме.

Рытм быў парушаны раптоўна, калі чыноўнікам прыйшла ў галаву ідэя, якая не гарантавала паляпшэння жыцця, а наадварот. Калгас імя Заслонава далучылі да калгаса "Путь к коммунизму"з цэнтрам у в. Сіцькова за 7-8 км ад Акунёва. Новае кіраўніцтва распарадзілася ўсю тэхніку з Акунёва перагнаць у Сіцькава. Тэхніку перагналі, а ў механізатараў дамы, сем'і, дзеці побач са школай, у жонак работа па месцы жыхарства. Нікога гэта не хвалявала: ні лёс людзей, ні становішча ў гаспадарцы. Адны, хто старэйшыя, засталіся на месцы, другія, маладзейшыя, перасяліліся ў Сіцькова, трэція – хто ў Дзісну, хто наогул за межы раёна. З часам у 1985 годзе сярэднюю школу перавялі ў Сіцькова, засталася пачатковая. Зачынілі клуб па прычыне адсутнасці моладзі, потым бібліятэку і пачатковую школу. Стаў непатрэбным магазін, яго замянілі аўтамагазінам.

Навакольныя вёскі і хутары Пагарцы, Ткачова, Ганебныя, Ясіна, Лашкова, Разгары, Стэфанполле, Усце, Глінскія, Ельна, Дзярбілава назаўсёды зніклі з твару зямлі, і цяперашняе пакаленне нават не ведае, што такія вёскі былі і дзе яны знаходзіліся. А калісьці дастаткова вялікія Ліпаціна, Стальмакова, Рудня, Сокалава, Паплавы і само Акунёва ў стадыі вымірання. Але не толькі населеныя пункты чакае поўнае забыццё. Гэта ж адбываецца і з людзьмі, якія жывуць на гэтых землях. Мала хто ведае, што на гэтых землях жылі Якавіцкія, Казлоўскія, Зубрыцкія, Дрылы, Кодзісы, Цыбульскія і іншыя. Адыходзяць у небыццё і Таболы, Станкевічы, Талапілы, Ганебныя, Гірыны і іншыя, на працы якіх трымаўся калгас.

Кажуць, што неразумныя людзі вучацца на сваіх памылках, разумныя – на чужых, а таленавітыя наогул іх не дапускаюць. Алгарытм, па якім знішчаліся "неперспектыўныя", а потым і "перспектыўныя" населеныя пункты, дзейнічаў некалькі дзесяцігоддзяў, няма гарантыі таму, што ён не паўторыцца. Год 8-10 назад калгас "Іскру", прыгарадную гаспадарку г. Дзісны, кантора і Дом культуры якога размяшчаліся на ўскрайку горада, вырашылі далучыць да ААТ "Цітова", які размешчаны ў в. Цвеціна за 8км ад Дзісны. Усё было быццам скалькавана па Акунёўскім працэсе. Тэхніку забралі ў Цвеціна, а людзі – хто куды. Крыху пазней такая доля спасцігла і калгас "1Мая", які знаходзіўся ў в. Шарагі за 2 км ад Дзісны. Тэхніку за 8 км вывезлі ў Мікалаева, а механізатары, будаўнікі, многія з якіх былі дзісненцамі, вымушаны былі шукаць работу ў Наваполацку, у Расіі.

Не хапіла смеласці ў раённага кіраўніцтва, а можа, і жадання браць абузу на свае плечы, даказаць вышэйстаячаму кіраўніцтву немэтазгоднасць такога рашэння, а прапанаваць больш перспектыўны спосаб – аб'яднаць гэтыя дзве гаспадаркі ў адну на базе Дзісны або прыгараднай в. Осцевічы і зрабіць аграгарадок. Была б захавана рабочая сіла. Цудоўная інфраструктура: сярэдняя школа, бальніца, ветлячэбніца, 2 Дамы культуры, 4 дзіцячыя сады, 2 бібліятэкі, лазня. Гаспадарцы патрэбна было б перадаць плодаагароднінны і малаказавод, якія зараз разваліліся. Можна было б арганізаваць перапрацоўку гародніны і малака, тым больш, што ў "Іскры" была свая добрая цяпліца. А гэта і дадатковыя рабочыя месцы, і грошы. Але гэта магло б быць, а зараз усё ўпушчана. Упушчана і развіццё горада Дзісны. Прычына – звычка плесціся па сцяжыне, пратаптанай не па самым лепшым маршруце, боязь саступіць убок: а раптам атрымаеш бізуном ад гаспадара за самавольства. Чым далей адыходзіць час, тым выяўней становіцца крытычнае, крызіснае становішча ў сельскай мясцовасці. Не выратуюць і аграгарадкі, калі мы не навучымся ў матухныпрыроды будаваць наша жыццё такім чынам, каб форма і змест знаходзіліся пастаянна ў стане гармоніі, не навучымся нашы кольcасныя дасягненні ператвараць у новыя якасці і наадварот, калі наша бязладдзе ва ўсіх галінах жыцця будзем вырашаць праз выныкі, ігнаруючы прычыну і г.д. А гэта ўжо філасофія жыцця.

У маі мінулага года давялося наведаць могільнік у в. Чарапы Германавіцкага с\с. Ад в. Сокалава Мікалаеўскага сельсавета да в. Людвінава Шаркоўшчынскага раёна на 8 км дарогі ні аднаго доміка. Бязлюддзе. Але і Сокалава, і Людвінава, і Ямны вымiраючыя. Ад аграгарадка Сіцькова да аграгарадка "Зорка" бязлюддзе на 12км. А землі ж павінны даваць прыбытак, а не зарастаць пустазеллем і кустамі.

А ці задумваўся хто пра будучае нашых аграгарадкоў? Вяртаюся да сваёй радзімы – Сіцькова. 50 год назад на тэрыторыі гэтай гаспадаркі пражывала каля 1700 чалавек. Зараз там няма і 400 чалавек. І людзі паступова выязджаюць, асабліва моладзь. Лакмусавай паперкай можа быць школа. У мінулым навучальным годзе быў 71 вучань, у гэтым – 65. Перспектывы больш чым дрэнныя. У першым і другім класах ўсяго па 1 вучню. У наступныя тры гады школа выпускае 23 вучні, а ў школу прыходзяць толькі 7. Два гады запар першакласнікаў не будзе наогул. Як тут не прыгадаць словы Прэзідэнта, што малакамплектныя школы патрэбна зачыняць як неперспектыўныя, а дзяцей арганізавана вазіць у буйныя сярэднія школы. Што чакае Сіцькоўскую СШ, і не толькі яе? А што чакае гаспадарку? Дзе ўзяць працоўную сілу? Спадзявацца на кітайцаў ці арабаў? Ужо калі мы загаварылі пра філасофію жыцця, то давайце філасофстваваць.

9 мая 2045 года. 100-годдзе Дня Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Настаўніца Сіцькоўскай пачатковай школы, калі такая застанецца да таго часу, прывядзе сваіх вучняў да абеліска з імёнамі тых, хто аддаў сваё жыццё ў імя перамогі. Нехта Ахмед Мамедаў запытае: "А скажыце, Мары Ванна, вось гэтыя Талапілы, Цюлькі, Шымуковічы, яны што, пасля сябе не пакінулі нашчадкаў? Яны што, вымерлі як дыназаўры?" А можа, да абеліска іх прывядзе зусім не Мары Ванна, а Лі Таяма, і вучань будзе не Ахмед, а Ір Таканава. Усё можа быць.

А вось каб гэтага не было, сёння ўжо патрэбна думаць, і не толькі думаць, каб паміж формай і зместам у аграгарадку была поўная гармонія, каб кожнаму жыхару аграгарадка, ад малога да старога, жылося камфортна, каб ён даражыў тым месцам, дзе нарадзіўся і рос, і не задумваўся аб змене месца жыхарства, а думаў, каб яго зрабіць яшчэ больш камфортным. Для гэтага патрэбна зразумець, што і ў аграгарадку жывуць такія ж людзі, як мы ўсе, што і ім уласцівы ўсе даброты жыцця, якімі карыстаецца ўсё цывілізаванае чалавецтва, што і жыхарам аграгарадка не прыпісана адну змену адбываць на працы, а другую – дома. Можа, менавіта сельскаму жыхару ў першую чаргу неабходна ствараць жыццёвыя даброты і камфорт. Таму што ён наш карміцель.

Трэба прызнаць, што інфраструктура нашых аграгарадкоў не адпавядае патрабаванням сённяшняга часу. Пастаянная праблема – дзе памыцца самому, памыць бялізну? У кагосьці ёсць асабістыя лазні. Але зноў жа – колькі патрэбна часу, каб яе працапліць, а чалавек на працы. У аграгарадку павінен працаваць лазня-пральны камбінат, хімчыстка. Маладыя дзяўчаты, якія наглядзеліся, як іх маці церпяць нязручнасці з мыццём, чысткай, змагаюцца з іншымі праблемамі сельскага жыцця, стараюцца пакінуць сяло. Гэта немалаважная прычына выезду моладзі з сяла.

Здавалася б, праблема з забеспячэннем насельніцтва хлебам вырашана. Але ці задавальняе гэта рашэнне спажыўца? На ўвесь наш Мёрскі раён адзін хлебазавод у райцэнтры. У аграгарадок Язна, за 60 км ад райцэнтра, хлеб завозіць аўтахлебавоз. Аб свежасці хлеба гаварыць не прыходзіцца. Хлебавоз жа па сваім шляху развозіць хлеб і па іншых магазінах. А ўзяць вёску Дарожкі, што за 80 км ад Мёр. Туды хлеб завозіць аўталаўка, якая на сваім шляху абслугоўвае шмат іншых населеных пунктаў. Аб свежасці хлеба таксама казаць не прыходзіцца. А якое захоўванне санітарных нормаў, калі ў аўталаўцы разам з хлебам, селядцом, соллю суседнічаюць мыйныя сродкі і шмат чаго іншага. Вадзіцель – ён жа і прадавец. А можа, няма іншага выйсця? Помню, у 40-50-я гады ў час пасляваеннай галадоўкі самому пацаном даводзілася пяшком за 20 км хадзіць у Дзісну за хлебам і прыносіць яго дамоў у мяшку за плячыма. І нічога, выжылі. А можа, усё ж патрэбна пераняць вопыт цывілізаваных краін? Тым больш, што дырэктар Мёрскага хлебазавода гады 4 таму ў складзе дэлегацыі ад вобласці ездзіў у Германію вывучаць вопыт забеспячэння насельніцтва хлебам. У Германіі на гэты час мелася 17 тысяч хлебапякарняў. Гэта прыкладна ў сярэднім адна пякарня на 4800 жыхароў. Але яшчэ патрэбна ўлічыць, што шчыльнасць насельніцтва ў Германіі ў 4,5 разоў вышэй, чым у Беларусі. Па словах дырэктара, там, акрамя гатовага хлеба, у магазін завозяць замарожанае цеста, пакупнік па заказе можа праз 5 хвілін атрымаць свежавыпечаную ў мікрахвалевай печы булачку хлеба любой вагі. У нас ёсць хоць нешта падобнае? У нас увайшло ў звычку: паехаў, паглядзеў, прагуляўся за дзяржаўны кошт, яшчэ камандзіровачныя атрымаў – і на ўсё забыўся.

У 1958 годзе мне давялося даслужваць у Германіі. Наш ракетны дывізіён размяшчаўся праз дарогу з вёскай Какштэт. У 3-тысячнай вёсцы было тры міні-пякарні. Адна выпякала хлеб для вёскі і забяспечвала наш гарнізон, які складаўся з нашага дывізіёна, танкавага палка, батальёна сувязі і інжынернага батальёна. Якасць хлеба адменная. Другая выпякала булкі, баранкі. Булкі "гроссбатон" сярод нашых салдат ішлі на "ўра", хаця кармілі вельмі добра. Трэцяя – здобу, тарты і іншае. У вёсцы была лазня, пральня, хімчыстка, цырульня і г.д. Хаця за 7 км знаходзіўся горад Дэсаў з насельніцтвам больш за 100 тысяч чалавек.

Так што ў нашых аграгарадках, асабліва аддаленых ад райцэнтраў, патрэбны міні-пякарні. Смешна! Той, хто вырошчвае хлеб,не мае магчымасці есці якасны свежы прадукт. З другога боку, спачатку зерне з Язна вязуць у Мёры, потым з Мёр у Полацк на мелькамбінат, потым мукавозы з Полацка муку вязуць у Мёры і, нарэшце, хлебавозы з Мёр хлеб вязуць у Язна. А кошт гэтых перавозак уваходзіць у кошт хлеба. А хто аплочвае гэтыя бесталковыя маніпуляцыі? Спажывец, г.зн. мы, пакупнікі хлеба. Гэтыя міні-пякарні могуць быць у прыватнасці індывідуальных прадпрымальнікаў. Толькі ім патрэбна аказаць дапамогу на першай пары і не душыць падаткамі і паборамі. Таму што тут вырашаецца пытанне адраджэння сяла, замацаванне ў сяле моладзі.

Ёсць вельмі многа чаго больш патрэбнага… Але тое, што патрэбна адраджаць культуру на сяле, п'янству проціставіць здаровы лад жыцця – гэта першарадная задача. У кожнай гаспадарцы ёсць намеснік па ідэалагічнай рабоце. Часцей за ўсё ён выкарыстоўваецца як хлопец або дзяўчына на пабягушках. А ён павінен узначальваць усё культурнае жыццё сяла. Я ўжо пісаў, які добры калектыў мастацкай самадзейнасці быў у калгасе імя Заслонава. Год 10-12 таму яшчэ ўдзельнікі гэтага калектыву, жанчыны пенсійнага ўзросту ў 65-75 гадоў, працягвалі спяваць народныя песні, былі ўдзельнікамі раённага агляду мастацкай самадзейнасці, іх здымала абласное тэлебачанне. Чалавек нараджаецца, сталае сям'ю і жыве з песняй. Гэта права нашага народа. Так што спіўкам патрэбна супрацьпаставіць спеўкі.



■ **Алесь Гай,**
*г. Глыбокае.*

# У лесе стала ціха

Наступіла восень. Пажоўклы ліст шчыльна накрывае зямлю. У лесе ціха-ціха. Не бачна ўжо ягаднікаў і грыбнікоў. На засохлых ствалах асіны пастуквае дзяцел. У нізінах бачна, як дзікі ўзрылі зямлю. Хараство якое! Я вельмі люблю восень. 22 кастрычніка з адным аматарам прыроды мы наведалі Галубіцкую пушчу. Пабывалі ў многіх месцах у раёне Ліпава. За цэлы дзень мы не ўбачылі ні адной машыны, ні аднаго чалавека.

– Гэта не ліпень-жнівень-верасень, калі пушча гудзіць, як пчаліны вулей, – сказаў мой знаёмы.

Восень! Ціха ў лесе. Прыціхлі лясныя браканьеры. К чаму гэта ўсё? А справа ў тым, што ніколі за апошнія гады не быў нанесены такі ўрон нашаму багаццю – багаццю нашага леса. Скрабкамі, камбайнамі збіралі чарніцы, скраблі брусніцы, ёсць факты, што ўжо многія скрабуць і журавіны.

Набіла, напэўна, іскому чытачам "Вольнае Глыбокае" артыкуламі начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету А.В.Протаса. Аўтар гэтых радкоў добраахвотна вядзе барацьбу з гэтымі хапунамі ляснога багацця. Ці ёсць з гэтага якое-небудзь выйсце, я і сам не ведаю. Па-першае, я думаю, што гэта не хвалюе раённую ўладу. Колькі разоў (я ўжо і палічыць не магу) я звяртаў увагу на работу прыёмных пунктаў ягад і грыбоў у Давыдках. Пункты гэтыя арганізаваныя прыватнымі асобамі не тое што з іншых раёнаў, дык нават не з нашай вобласці. Ягады прымаюць з лісцем, галінкамі. Значыць, ёсць выгада гэтым прымальнікам. Практычна гэта нікога не хвалюе. На маю думку, і работнікі лясгаса апусцілі рукі. Мабыць, у іх свае клопаты, а мабыць, не хапае штату. Магла б добрую канкурэнцыю скласці і дзяржаўная нарыхтоўчая кантора. Гэтыя лясныя хапуны знішчаюць ягаднік, грыбніцу. У тых жа Давыдках у асобныя дні лісічкі прымалі па дваццаць-дваццаць пяць тысяч рублёў за адзін кілаграм.

Прывяду прыклад, які асабіста бачыў некалькі разоў. У той жа пушчы, у раёне Ліпава, каля дарагой іншамаркі на разасланым брызенце ляжала куча лісічак. Вёдзер так 5-6. Малады мужчына ачышчаў лісічкі і абразаў карэньчыкі. Калі я запытаў, няўжо нельга было зрэзаць нажом на зямлі, бо знішчаецца грыбніцу, вось які пачуў адказ: "Буду я час свой марнаваць на гэта, мне грошы патрэбны, на мой век хопіць. А ты, мужык, ідзі адсюль далей, бачыш, я заняты…" Адышоўшы метраў 150 ад машыны, убачыў, як дзве жанчыны і хлапчук гадоў 14 скраблі лісічкі як граблямі. Пасля іх збору як быццам дзікі ўзрылі зямлю.

Людзі старэйшага ўзросту памятаюць: не было так раней. Нядрэнна было б напомніць грыбнікам: калі грыбніцу не разбураць, не вырываць грыбы з каранямі, а зразаць нажом, можна некалькі гадоў збіраць іх на адным і тым жа месцы. Вопытны грыбнік беражліва адносіцца да грыбніцы. Я практычна не бачыў, каб нашы глыбоцкія грыбнікі зразалі грыбы нажом. Спачатку з каранём вырываюць, потым, трымаючы ў руках, абразаюць карані.

Хацелася б выказаць сваю думку і пра рыбакоў-браканьераў. І ў цэнтральных газетах, і па тэлебачанні бачым, як работнікі рыбгасаў крадуць рыбу, ловяць браканьеры і электравудамі, ловяць і сеткамі.

Помню сваё дзяцінства. Дзед у мяне быў заядлы рыбак. Шчыра кажучы, і мы ставілі сетку. Але гэта сетка была ўсяго 20-25м. Налавілі на юшку і крыху падсмажыць – і ўсё на гэтым. Берaглі і ў той час рыбу і ў час нерасту. Зараз чытаю зводкі: затрымалі браканьераў, 50-60-70 кг рыбы. Дзіву даешся, навошта ў сям'ю 60 кг рыбы? Вельмі змяніліся людзі. Хапаць – дык усё! Ягады, грыбы, рыбу – і чым больш, тым лепш.

Восень. Ціха-ціха ў лесе. Прыціхлі лясныя браканьеры. Цяжка паверыць, што штосьці памяняецца. І калі-небудзь у ліпені зноў гэтыя лясныя хапуны кінуцца знішчаць ягаднік, грыбніцу. А як вы думаеце, чытачы?

## Нямецкі турыст патраціў за тры дні ў Белавежскай пушчы 450 тысяч еўра. Ён паляваў на зуброў

**Нямецкі турыст патраціў за тры дні ў Белавежскай пушчы 450 тыс. еўра. Пра гэта паведаміў намеснік міністра спорту і турызму Беларусі Часлаў Шульга.**

Немец наведваў Белавежскую пушчу некалькі тыдняў таму. Ён прыехаў, каб папаляваць на зуброў. Такія высокія расходы звязаны менавіта з гэтым захапленнем замежнага паляўнічага.

Намеснік міністра не стаў удакладняць колькасць застрэленых зуброў, але запэўніў, што размова ідзе не аб адной асобіне.

Белавежская пушча карыстаецца даволі высокай папулярнасцю сярод замежных турыстаў, уключаючы паляўнічых.

*БелТА*

## Будучая зіма чакаецца вельмі сцюдзёнай і прыйдзе ў другой палове лістапада. Такія халады былі толькі ў 1953, 1960, 1976, 1978, 1986, 2006 гадах

**Пра гэта паведамілі карэспандэнту БЕЛТА у Рэспубліканскім гідраметэацэнтры.**

Прагназуецца, што сярэдняя тэмпература паветра зімой будзе на 0,5-1 градус ніжэйшая за кліматычную норму, якая складае мінус 5,5 градуса.

«Так холадна ў Беларусі за пасляваенны перыяд было толькі ў 1953, 1960, 1976, 1978, 1986, 2006 гадах і мінулай зімой», – адзначылі спецыялісты Рэспубліканскага гідраметэацэнтра.

Колькасць дзён з тэмпературай ніжэй за мінус 20 градусаў чакаецца ад 10-15 дзён па паўднёвым захадзе да 19-23 дзён па паўночным усходзе краіны.

Паводле сярэдніх шматгадовых назіранняў, звычайна такія маразы ў нашай краіне размяркоўваюцца наступным чынам: ад 5-10 дзён у паўднёва-заходніх рэгіёнах да 14-19 на паўночным усходзе краіны.

Сярэдняя колькасць ападкаў у гэты зімовы сезон чакаецца менш за кліматычную норму -- яна складае 115 мм. За апошнія 10 гадоў дэфіцыт ападкаў адзначаўся зімой 2003, 2006 і 2008 гадоў.

Паводле папярэдніх прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра, першыя два зімовыя месяцы будуць маласнежнымі, а вялікая колькасць ападкаў (вышэй за кліматычную норму) выпадзе ў лютым.

Зімовае надвор'е ў Беларусі чакаецца ў другой палове лістапада.

Нагадаем, што раней з папярэджаннем пра халодную зіму выступалі брытанскія метэаролагі і Сусветная метэаслужба.

*БелТА*





## Дзяржслужачым Беларусі забароняць карыстацца картай паляка

Дзяржаўным служачым Беларусі забароняць карыстацца картай паляка, а таксама аналагічнымі дакументамі, якія выдаюцца іншымі краінамі. Адпаведнае палажэнне прадугледжана ў папраўках да закона «Аб дзяржаўнай службе Беларусі», прынятых 4 лістапада дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў у першым чытанні.

Як паведаміла намеснік міністра юстыцыі Ала Бодак, законапраект быў падрыхтаваны ў мэтах выканання рэкамендацый Канстытуцыйнага суда ў яго рашэнні адносна закона Польшчы аб карце паляка. Дакумент «скіраваны на ўстараненне канфлікту інтарэсаў пры праходжанні дзяржаўнай службы».

Папраўкі вызначаюць забарону на карыстанне дзяржслужачымі льготамі і перавагамі, якія даюць замежныя дзяржавы ў сувязі з палітычнымі, рэлігійнымі поглядамі ці нацыянальнай прыналежнасцю, а таксама на атрыманне дакументаў, што даюць такія льготы і перавагі.

Законапраект замацоўвае абавязак дзяржслужачых перадаваць гэтыя дакументы ў кадравую службу дзяржоргана. Невыкананне гэтага патрабавання будзе з'яўляцца падставай для вызвалення дзяржслужачага ад пасады.

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН.*

## Падатак на прыбытак у Беларусі ў наступным годзе знізіцца з 24% да 18%

Падатак на прыбытак у Беларусі ў наступным годзе знізіцца з 24% да 18%, паведаміў журналістам у Мінску 4 лістапада міністр па падатках і зборах Уладзімір Палуян.

Ён таксама адзначыў, што стаўка ПДК застанецца ранейшай (20%). Паводле слоў Палуяна, стаўку ПДК змяняць не варта, паколькі гэты падатак уплывае на цэнаўтварэнне ўнутры краіны.

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН*

## Спачуванне

Анюта Ігнатовіч, прымі наша шчырае спачуванне з нагоды смерці бабулі.

*Вучні 5 "Б" класа СШ №3 і класны кіраўнік Вольга Паўлаўна Сінякова.*

# Віншаванкі

## Алену Грышанковіч

**Віншуем з днём нараджэння!**

Пусть звезды светятся в глазах твоих,
Пусть счастье, как шампанское, искрится
Пусть слезы никогда не блещут в них
И в сердце пусть печаль не постучится.
Пусть этот день, как песня соловья,
Перечеркнет всех хмурых дней ненастье.
Пусть жизнь твоя, как майская заря,
Приносит каждый день в ладонях счастье!

*Родныя.*

## Алену Грышанковіч

**Віншуем з днём нараджэння!**

День рожденья - прекрасная дата,
Не беда, что уходят года.
Жизнь настолько светла и прекрасна,
Что не стоит грустить никогда.
Желаем здоровья на долгие годы,
Пусть мимо пройдут все печали, невзгоды,
Пусть радостью, счастьем искрятся глаза
И только от смеха сверкает слеза.

*Калектыў "ВГ".*

## Сяргея Міленцьевіча Сталяронка

**Віншуем з днём нараджэння!**

Мы желаем всей душой
Только радости большой.
Сил, здоровья и достатка,
Полного в делах порядка,
Чтобы счастьем и теплом
Был всегда наполнен дом.

*Хрэсніца Іра і яе сям'я.*

